Вялікай нечаканасцю для знаўцаў і аматараў паэзіі быў літаратурны вечар Надзеі Артымовіч, які адбыўся 8 снежня 1976 г. у варшаўскім клубе БГКТ. І не толькі таму, што быў гэта першы аўтарскі вечар паэтэсы, а ў першую чаргу дзякуючы новым, арыгінальным творчым якасцям, якія прадэманстравала Надзея Артымовіч.

## Вечар паэзіі Надзеі Артымовіч


*Надзея Артымовіч.*

Сярод іх асаблівай увагі заслугоўваюць не вымушаныя пагоняй за модай сучасная форма і стыль паэтычных твораў, а таксама нячаста сустраканы на нашым літаратурным палетку іх глыбокі філасофскі змест. Паэзія Надзеі Артымовіч — гэта перш за ўсё шматгранны свет яе ўнутраных перажыванняў і роздумаў, так характэрных і тыповых для сучаснай індустрыяльнай эпохі. У такім плане творчасць паэтэсы ў ніякай меры не грэшыць суб'ектыўнасцю: яна універсальная, паколькі адлюстроўвае ўнутраны свет заблытаных у вялікіх гарадах выхадцаў не толькі з Беластоцкага краю.

Няма ў паэзіі Надзеі Артымовіч імкнення да актыўнага ўздзеяння на чытача, на авалоданне яго пачуццямі, думкамі. Сведчыць аб гэтым эмацыянальная ўстрыманасць і адсутнасць назойлівых кропак над „і" ў галіне зместу. Ніякі верш паэтэсы не з'яўляецца гатовым прадуктам, які прызначаецца для непасрэднай і лёгкай кансумпцыі. Тым не менш, а можа якраз таму, успрымаюцца яны з зацікаўленнем, выклікаюць уражанне інтэлектуальнай ненасытнасці і вымушаюць чытача задумоўвацца. Гэтыя якасці стварае камунікатыўнасць твораў паэтэсы.

Адзін з першых вершаў Надзеі Артымовіч пад загалоўкам „Думка" быў надрукаваны на ніваўскай „Літаратурнай старонцы" у 1970 годзе. Наступныя гады прынеслі на яе творчым шляху далейшыя здабыткі. Не змяніўся толькі асноўны напрамак яе творчасці, якім паслядоўна была паэзія роздуму.

**Ю. Туронак**

АД РОДНЫХ НІЎ

## ЗАЙЦЫ

*Папрасіў я сваю жонку:*
*— Ты схадзі каровам даць!*
*Сам пайшоў я у нагонку —*
*Зайцоў ў сеці наганяць.*

*Мы ішлі нага за ногу*
*Густым шэрагам, як плот,*
*Было снегу тагды многа,*
*Аж па самы па жывот.*

*Наганялі зайцоў ў сеці,*
*Пільнавалі па баках.*
*Зайцы плакалі, як дзеці,*
*Спавітыя ў пелянках.*

*Хто ўваліўся ў роў глыбокі*
*(Ой, быў смех для ўсіх тагды) —*
*Як той заяц касавокі,*
*Бег у сець наўзавады.*

*Налапалі зайцоў шэрых*
*Чуць ні цэлы самаход;*
*Прадалі іх за даляры,*
*Добры быў за іх даход.*

**Фёдар Хлябіч,**
Рыбакі

## ДАЎНЕЙ І СЁННЯ

## З МАЁЙ ЗВАНІЦЫ

За вокнамі зімовы заснежаны вечар. У печцы патрэсквае агонь, ахапляючы гарачымі пацалункамі яловыя галінкі, кінутыя дзедавай рукой. Дзесяцігадовы ўнучак Кастусь любіў такія хвіліны. Падсоўваўся бліжэй і засыпаў свайго дзядулю пытаннямі. Ён ведаў, што дзед надта любіць успамінаць мінулае.

— Колькі ўжо табе, дзеду?

— Ой, унучак! Восьмы дзесятак хутка даб'е. Ляцяць гады. Многае пабачылася.

— Дзеду, а як калісьці жылі на вёсцы? Ані радыё, ані тэлевізара. Сумна, пэўна, было?

— Ой, што ты? Калі я быў хлопцам, зусім было інакш. Як прыдзе, бывала, зіма з сваімі доўгімі вечарамі, вёска аж дыхае жыццём. Так і чакаем, каб хутчэй вечар, каб каму нейкі фокус упароць. А потым смеху на цэлы тыдзень. Весела было. А цяпер нічагутка. Глухамань нейкая. Абы-што, дык зараз у міліцыю або дуюцца з паўгода. А калісьці хто б на гэта зважаў. І ў галаву не прыходзіла, каб крыўдзіцца. Памятаю, як да Матроны канцавой сваты прыехалі, то мы са сваёй кампаніяй не толькі што навюсенькае сядзенне спалілі, то яшчэ і шыткі ў бярэзіну кіламетраў два ад вёскі заперлі. Цэлую ноч маршалак ды малады з будучым тэсцем шукалі. Сёння б злодзеем назвалі, а тады хоць бы дзічкі. Каб не мы, то і вяселле не склеілася б. Памятаю, Матронін бацька нават літроўку сівухі паставіў за добрую работу. Цікава было калісьці, унучак, цікава. Ніхто і не думаў з вёскі выбірацца. Жыццё цвіло, як кветка на веснавым лузе. На ўсё быў спосаб. Як сёння памятаю, як Грышку, суседа нашага, зямля б яму лёгкай была, ад нерваў адвучылі. Грышка, ты то яго, пэўна, не памятаеш, надта ж ганяць нас любіў. Як бы што, дык за сякеру, якую трымаў заўсёды ля парога, і прэ за намі аж на выган. Спачатку нам гэта падабалася. Але калі ўжо ўдзень пачаў кідацца, дык дай, думаем, правучым цябе. Выганім з цябе гэтыя нервы. Прыцягнулі конскі жолаб, абаперлі аб дзверы і давай снежкамі ў шчыт смаліць. А як жа! Грышка за сякеру і ў дзверы. Толькі адчыніў, а жолаб — барабах і прыкрыў. Папастукаў тады нагамі, пакуль жонка, вяртаючыся з кудзельніц, не вызваліла. З таго часу як рукой адняло. Лепшым сябрам нашым стаў. І каб не ён, ніхто б і не здагадаўся, што Івану Грыцуковаму можна жалязняк на хату зацягнуць і гноем загрузіць. Ай, было смеху. Іван да воза, а яго няма. І каб не тое, што кожны ідучы рукой на страху паказваў і ад смеху за жывот хапаўся, да позняга вечара б шукаў. І, думаеш, авантура была? Яшчэ пачаставаць мусіў, каб зняць прыйшлі. Ой, было... было... Або як я сваю старую ад цукерак адвучыў. Надта ж ласая на цукеркі была. Цукерак і цукерак давай. „Ідзі, моў, да Мошка, у яго там такія з мёдам у сярэдзіне ёсць. Другім то прыносяць, а ты мне ніколі". Праўда, і трэба было б. Але вельмі прывучы, дык одгалу не будзеш мець. Ажэнішся і кармі кожны дзень цукеркамі. А калі не, дык і зараз у хамут заб'е. Накармлю я цябе, думаю. Век есці не захочаш. Купіў роўна на дзесяць грошай. Многа выйшла. Ды давай парадак з імі рабіць. Пракалупаю дзірачку, высмакчу мёд, а мыла туды напхаю ды зноў у паперачку загарну. Адну толькі з'ела — і як рукой адняло. Па сённяшні дзень не то што есці, але і глядзець не хоча. Толькі ты не гавары ёй гэтага. Яна думае, што гэта Мошкава паддзелка была. Бачыш, унучак, як весела калісьці жылося. Так і стараліся, каб фокус нейкі ўпароць. А цяпер што? Глухамань чыстая.

— Чаму, дзеду? А дзядзькаў Мікалай! Памятаеш, як з трактарам у глінянку балтыхнуў? Можа ён таксама фокус СКР-аві зрабіць хацеў? Толькі што гэта летам было, і не людзі вымалі, а кранам пад'ёмным выцягвалі.

Дзед толькі плюнуў ды пайшоў у сваю каморку.

**Бізун**


*Выступае старшыня ГП БГКТ Мікалай Самоцік.*

## НАРАДА Ў ГП БГКТ

19 снежня мінулага года адбылася нарада старшынь гурткоў БГКТ, прысвечаная абмяркоўцы задач да далейшай культурна-асветнай працы ў гуртках, вынікаючых з пастаноў VIII з'езду таварыства. Аб дасягненнях і напрамках працы ў мінулым 20-годдзі БГКТ, а таксама аб задачах далейшай дзейнасці гурткоў БГКТ і дапамогі з боку Галоўнага праўлення таварыства гаварыў старшыня Галоўнага праўлення БГКТ Мікалай Самоцік.

У дыскусіі выступілі старшыні гурткоў БГКТ: Ніна Мушынская з Гарадка, Анна Стахвіюк з Трасцянкі, Мікалай Гайдук з Беластока, Аляксей Карпюк з Бельска, Георгі Валкавыцкі (намеснік старшыні ГП БГКТ і галоўны рэдактар „Нівы"), Яўген Аніська з Аўгустова каля Бельска, Людміла Васілюк (культурна-асветны кіраўнік ГП БГКТ), Ян Ільяшук з Новаберазова, Віктар Рудчык (рэдактар беларускага радыёвяшчання ў Беластоку).

Удзельнікі дыскусіі расказалі аб дзейнасці гурткоў БГКТ у сваіх асяроддзях, аб патрэбах, між іншым, прасілі музычных інструментаў для тых гурткоў, дзе дзейнічаюць харавыя або вакальна-музычныя калектывы і каб высылаць інструктараў для вядзення аматарскіх харавых і музычных калектываў, аб наладжванні краязнаўчых экскурсій для членаў БГКТ, аб абмене вопытам з дзейнасці гурткоў БГКТ на старонках „Нівы". Даволі шырока абмяркоўвалася справа вывучэння беларускай мовы ў школах і справа падпіскі на беларускія газеты і часопісы.

На нарадзе былі пададзены тэрміны аглядаў „Беларуская песня-77" і аматарскіх драмгурткоў. У мілейчыцкім і гайнаўскім раёнах песенны агляд адбудзецца 9 студзеня, у бельскім і беластоцкім раёнах — 16 студзеня. Фінальны агляд „Беларуская песня-77" адбудзецца ў Беластоку 30 студзеня.

Агляд драматычных гурткоў у беластоцкім і мілейчыцкім раёнах адбудзецца 13 лютага, а ў бельскім і гайнаўскім раёнах — 20 лютага. Фінальны агляд прадбачваецца на 27 лютага.

У заканчэнні нарады дыскусію падсумаваў і адказаў на ўсе пытанні старшыня ГП БГКТ тав. М. Самоцік.

Пасля нарады з мастацкай часткай выступіў харавы калектыў з беластоцкага клуба БГКТ.

Тэкст і фота **Я. Цялушэцкага**


*Удзельнікі нарады.*

# „Наша ёлка маладая...“

Калі на пераломе двух гадоў — у канцы „старога“ і на пачатку „новага“ — у памяшканні на пачэсным месцы зіхаціць іскрыстымі агнямі і пераліваецца рознымі колерамі цацак ёлка, тады няма канца радасці і пацехі нашым дзеткам-малалеткам, а ў дарослых не-не ды возьме і ўсплыве пытанне: „Адкуль жа ў нас з'явіўся звычай стаўлення ёлкі?“

За адказам не трэба далёка хадзіць. Вядомы польскі этнограф Я. С. Быстрань у працы „Этнаграфія Польшчы“ прыводзіць запіс ксяндза Запчынскага з пачатку XVIII стагоддзя, які бачыў *„у Германіі, а нават і ў Прусах нашых, маляваныя, залацістыя ды рознымі блёсткамі і цацкамі прыбраныя голькі, што яны там па калядзе, а па-іхняму кажучы: на навагоднія святы, купляюць дзецям“*. Ужо ў XIX стагоддзі гэты звычай распаўсюдзіўся на польскія землі, затым ахапіў Беларусь, Украіну і Расію, а таксама некаторыя іншыя славянскія і неславянскія народы Еўропы. Першапачаткова ён залічаўся да „гарадской“ ды „панскай“ моды, бо стаўлянне на каляды і ўпрыгожванне агнямі, цацкамі, цукеркамі ды іншымі ласункамі маладога яловага дрэўца перш за ўсё запанавала сярод заможнага мяшчанства ды ў памешчыцкіх дварах. Толькі ў пачатку нашага стагоддзя ёлка завандравала і на вёску.

Узнікае пытанне, ці ёлка заняла нейкае пустое месца ў абрадавасці беларускага насельніцтва Беласточчыны? На гэта адказаць значна цяжэй. Па-першае, пра „пустое месца“ ў абрадавасці беларусаў Беласточчыны на каляды — г.зн. у перыяд ад 24 снежня па 6 студзеня па старому стылю — не можа быць і мовы. Гэта ж самы багаты абрадамі час! Прыгадаем найважнейшыя з іх: тры куцці (напярэдадні калядаў, новага года і вадохрышча), мноства магічных дзеянняў дзеля забеспячэння здароўя ўсёй сям'і, высокага ўраджаю на полі, павелічэння дабытку ў хляве; калядаванні і віншавальныя песні каляднікаў, „святыя вечары“, варожбы і інш. Але, па-другое, на беларускіх і ўкраінскіх землях былі такія абрады, якія падрыхтавалі глебу і стварылі спрыяльныя ўмовы для пашырэння і замацавання ў нас ёлкі. Да іх належыць звычай прыбіраць ці „маіць“ хату ссечанымі маладымі дрэўцамі бярозы на свята тройцы (сёмухі), а таксама на Яна (24 чэрвеня) плясці вянкі з кветак, рассыпаць па падлозе хаты ды затыкаць у страху над дзвярыма зялёную крапіву, палын, багно. У гэтым знаходзіла свой выраз вера чалавека ў ачышчальную і жыватворную сілу маладых зялёных раслін, у іх здольнасць забяспечыць чалавека і яго жыллё ад ведзьмаў і іншых злых моцаў. Значнай пашанай карыстаўся і агонь. Славуты польскі этнограф К. Машынскі ў працы „Народная культура славян“ піша аб існаваўшым на Беларусі і сумежнай з ёю частцы Украіны абрадзе „жаніцьбы светача“ (светач — спецыяльная прылада, „дзед“, да якога прымацоўвалі палаючую лучыну для асвятлення хаты). У часе яго гаспадыня парадкавала „дзеда“, бяліла яго, упрыгожвала нечым зялёным (дзеразой, хмелем, голькамі брусніцы) або кветкамі, а затым урачыста падпальвала на ім лучыну. Адбывалася гэта ў канцы лета, калі ў хаце ўжо неабходным станавілася асвятленне. На Украіне, у Кіеве, калісьці існаваў таксама абрад „жаніцьбы свячы“, які адбываўся ўначы з 1 на 2 верасня. Ад гэтага часу крамары гандлявалі пры штучным святле, а рамеснікі ж выконвалі пры ім сваю работу. *„Галоўную ролю ў часе гэтага абраду,* — піша К. Машынскі, — *адыгрывала ссечанае дрэўца, абвешанае фруктамі, кавунамі, гарбузамі і г.д. і асветленае прымацаванымі на яго гольках малымі васковымі свечкамі“.* Неабходна таксама прыгадаць і снапок збожжа, які гаспадар уносіў у хату і ставіў на ганаровым месцы ў покуце. Гэта адбывалася на першую куццю (г.зн. перад калядамі), і звалі снапок „дієд“ або „дієдух“. „Дієдуха“ ўпрыгожвалі стужкамі, а на яго верх садавілі пеўня. Гэты абрад яшчэ ў пачатку нашага стагоддзя быў распаўсюджаны ў ваколіцах Бельска Падляшскага, між іншым, у вёсцы Стрыкі. Этнографы мяркуюць, што меў ён забяспечыць ураджай на будучы год або сімвалізаваў постаці памёршых продкаў. Разам са зменай жыцця, гаспадарання, пашырэннем асветы сышлі са сцэны нашай абрадавасці гэтыя звычаі, але іх месца заняла ёлка.

„Ці доўга пратрывае звычай стаўляння ёлкі?“ — можа нехта запытаць. Сёння немагчыма пра гэта сказаць, калі ёлка займае цэнтральнае месца ў калядных і навагодніх святах. Аб ёй паэты пішуць вершы, празаікі — апавяданні, казачнікі — казкі, кампазітары — песні і спецыяльную музыку. Паўсталі нават фабрыкі ёлачных цацак, у якіх працуюць тысячы людзей круглы год! Зрэшты, заўважце самі, якія сумныя і нудныя былі б калядныя святы, калі б у нашай хаце не стаяла пышная прыгажуня-ёлка!..

**Мікалай Гайдук**

*Фота Я. Цялушэцкага*



## ФАЛЬКЛОР

**ЖНІЎНАЯ**




*Попэрэдзі лебедзі, попэрэдзі лебедзі,*
*а позадзі мэдвэдзі.*
*Попэрэдзі віно п'ют, попэрэдзі віно п'ют,*
*а позадзі кіём б'ют.*

Ад Вікторыі Шумарскай, год 80, вёска Буды ў Белавежскай пушчы, запісаў 12 кастрычніка 1976 г. Мікалай Гайдук. Нотная транскрыпцыя з магнетафоннай стужкі Людмілы Панько.

# Аблягчэнне на аўтобусным шляху

Дзякуючы намаганням людзей і зразуменню з боку дырэкцыі ПКС у Беластоку ад дваццатага снежня мінулага года Бельскі аўтобусны вузел стаў багацейшым. Прыбыў новы аўтобусны шлях Бельск Падляшскі — Пасынкі — Кожына — Плёскі, які з'яўляецца часткай трасы Бельск — Нараў. Праўда, не зусім ён новы, бо ўжо ад чэрвеня вышэй спамянутага года ездзілі сюды аўтобусы, але толькі да Кожына і ўсяго два. Зараз курсуе іх тры, ды аж у Плёскі. Асабліва добра прадуманай справай было ўвядзенне аўтобуса, які выязджае з Бельска а палове шостай пасля поўдня. Якраз тады ёсць найбольшая нагрузка пасажыраў і ў сувязі з гэтым адчуваўся найбольшы недахоп пасажырскага транспарту, бо ад чацвёртай да шостай не было ніякага аўтобуса ў гэтым напрамку. І другая карысная рэч — гэта тое, што ў сем гадзін вечара ёсць яшчэ спалучэнне з Бельскам, бо менш-больш у гэтым часе вяртаецца аўтобус з Плёсак. Людзі пакуль што вельмі задаволены. Цяпер найважнейшае, каб аўтобусы гэтыя хадзілі рэгулярна. Каб не былі яны толькі ў расписанні, але і ў рэчаіснасці.

**М. Ш.**

## НА СПАРТЫЎНАЙ НІВЕ

# РАШАЮЦЬ СІМПАТЫІ

Два англійскія псіхолагі пасля правядзення адпаведных доследаў заявілі, што футбалісты ў складаных сітуацыях значна часцей перадаюць мяч калегам па камандзе, да якіх яны адчуваюць большую сімпатыю. Гульня па падобным „сцэнарыі сяброўскіх пачуццяў“ ішла нават у тым выпадку, калі футбалісты атрымлівалі строгія інструкцыі ад трэнераў не рабіць гэтага, — заявіў прадстаўнікам друку Дэвід Пансонбі і Марыс Яф.

Футбольныя клубы павінны звярнуцца да псіхолагаў для таго, каб дапамагчы іграком змагацца з такімі сітуацыямі, сцвярджаюць яны, бо відэамагнетафонныя запісы наглядна паказваюць: футбалісты робяць так зусім аўтаматычна. Менавіта гэта павінна дапамагчы футбалістам адмовіцца ад асабістай прадузятасці ў адносінах да каго-небудзь са сваіх калег. Падрабязная справаздача аб доследах Пансонбі і Яфа надрукавана ў органе Міжнароднай федэрацыі футбола „ФІФА ньюс“.

У дні інтэнсіўнага футбола, гавораць яны, асабістыя адносіны паміж членамі адной каманды часта акрэсліваюць яе гульню ў цэлым. „У сучасным футболе з частай зменай напрамку атакі быстрыя перамяшчэнні ігракоў прымушаюць усіх членаў каманды ўступаць у кантакты „адзін з другім“, — цвердзяць псіхолагі.

Псіхолагі падкрэсліваюць неабходнасць састаўлення спецыяльных картачак на кожнага ігрока ў кожным матчы, дзе павінны рэгістравацца ўсе яго перадачы, падачы ўглавых, пакаранні, перахваты і г.д. дзеля таго, каб трэнер мог найлепш накіроўваць дзеянні футбаліста. Падобны метад дазволіць дакладна сачыць за гульнёй, яе ўзлётамі і застоямі, а таксама змучанасцю каманды. Аднак, падкрэсліваюць псіхолагі, кантроль і настаўленні іграком павінны рабіцца тактычна і ў недакучлівай форме, каб гэта не прывяло да адваротнага выніку — росту напружанасці ўнутры каманды.



## МАЛА, АЛЕ ЦІКАВА

Каля дарожнага кафэ „Саглар“ на аўтатрасе Эліста-Яшкуль была невялікая гаспадарка. Днём індыкі гулялі ў стэпе, пад вечар збіраліся ў адкрытыя вальеры. Але аднойчы ноччу птушкаферма апусцела. Раніцой участковы міліцыянер, які пабываў на месцы здарэння, толькі развёў рукамі: злодзей не пакінуў ніякіх слядоў. А праз некалькі дзён расследаванне закончылі... паляўнічыя: далёка ў стэпе яны знайшлі рэштку багатага лісінага абеду. Пайшлі па следу і хутка разгледзелі ў бінокль лісу, якая пасвіла індыкоў.

Як былі ўкрадзены індыкі? Гэта здарылася, мабыць, так: рыжая, пачуўшы птушак, прабралася ў вальер і выгнала адтуль індыкоў у стэп, дзе і пасвіла іх, ловячы на абед па індыку. Хітрая была разбойніца — пасвіла сваю ферму далёка ад жылля і дарог. Ды ад сытага жыцця страціла пільнасць.

## ФОТА ПА ЗАКАЗУ ♦ SWEET ♦



**Заказвалі:** Е. Маркоўская, Д. Мразоўская, Б. Врублеўская, Б. Бароўская, М. Заянчкоўская, А. Банькоўскі з Бельска, Г. Гаінская, Г. Капчэская са Страблі.

## Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: А. ажаніўся з В. сем год таму назад. У іх двое дзяцей ва ўзросце 3 і 5 год. Іх маці пазнаёмілася з мужчынам з горада, пакінула мужа і дзяцей і пражывае з гэтым мужчынам у горадзе. Яны хочуць пажаніцца, і таму В. падала ў суд на развод. Ці можа яна атрымаць развод, калі яна сама кінула мужа? Ці можа суд пакінуць дзяцей пры мужу, а ад маткі прысудзіць аліменты?

АДКАЗ: Калі муж і жонка маюць малалетніх дзяцей, суд у справе аб разводзе прымае перш за ўсё пад увагу, ці парванне сямейных адносін не будзе шкодзіць дзецям, а далей, хто вінаваты за разлад сямейнага жыцця. Калі жонка кінула сям'ю і адышла да іншага мужчыны, то калі б з боку мужа не было ў гэтым віны, не мела б яна асноў патрабаваць разводу і магла б яго атрымаць толькі тады, калі б муж на гэта згадзіўся. Калі б муж таксама быў вінаваты, напрыклад, быў п'яніцам ці здзекваўся над жонкай, жонка магла б патрабаваць разводу з супольнай віны. Адносна дзяцей, то суд, як правіла, пасля разводу аддае іх пад апеку маці. Аднак дапушчальныя выключэнні. Калі матка, пакінуўшы сям'ю, не цікавілася дзецьмі, а бацька добра імі апекаваўся, суд можа дзяцей пакінуць пры бацьку, а ад маткі прысудзіць на іх утрыманне аліменты.

## Куток практычных ведаў

ЯК ЗВАРЫШ, ТАК І З'ЯСІ

### ПАЛЯЎНІЧЫ БІГОС

На бігос трэба ўзяць: 1 кг свежай капусты, 4-5 сушаных грыбоў, 1 кг „звычайнай" каўбасы, 3/4 кг свініны, ялавічыны ці цяляціны, стушанай з цыбуляй, 1/2 кг сырой капчонай грудзінкі (бочку), некалькі зёрнаў перцу і ядлоўца, 2 лыжкі павідла са сліў, 3/4 шклянкі чырвонага сухога віна.

Грыбы намачыць на дзень раней, назаўтра падварыць іх крыху ў той жа вадзе. Свежую капусту нашаткаваць, пасаліць і адціснуць у місцы, пакідаючы ў місцы мінут 15. Пасля гэтага дадаць яе да варачыхся грыбоў і варыць на інтэнсіўным агні ў адкрытым посудзе 15 мінут, а пасля накрыць і на малым агні варыць паўгадзіны. Кіслую капусту (калі занадта кіслая, то трэба яе перапаласкаць), заліць у каструльцы вадой, дадаць сырую грудзінку, прыправы і варыць пад крышкай каля гадзіны. Пасля гэтага спалучыць свежую і кіслую капусту, дадаць нарэзаную каўбасу, тушанае з цыбуляй мяса (дробна нарэзанае), павідла, дадаць па смаку соль, перац і ядловец і зноў пад крышкай тушыць каля гадзіны. У самым канцы ўліць віно і тушыць яшчэ мінут 10. Бігос не варта запраўляць мукой, а калі атрымаецца занадта рэдкі, няхай вада лепш выпарыцца (паварыць на вялікім агні некалькі мінут у адкрытым посудзе).

### ПАШЦЕТ

Узяць перадкі зайца (альбо кроліка), 3/4 кг свініны, 3/4 кг цяляціны ці кураняці, 1/2 кг свіной грудзінкі, 1/2 свіной пячонкі, 5 яечак, 1 селер, 2 вялікія цыбуліны, 5 дэкаў сушаных грыбоў, 10 зерняў перцу, 5 зерняў ядлоўца, 2 лаўровыя лісткі, соль і па смаку сцерты на тарцы мускатны арэх (мушкаталова галка).

Усё мяса, апрача пячонкі, палажыць у вялікую каструлю разам з гароднінай, заліць вадой так, каб толькі лёгка пакрывала мяса і варыць на невялікім агні так доўга, пакуль мяса не стане зусім мяккім і будзе лёгка адыходзіць ад касцей. Тады дадаць пячонку і варыць яшчэ 10 мінут. Пасля гэтага вымаем мяса, дакладна аддзяляем ад касцей, а вывар працадзіць і паставіць у халоднае месца, каб тлушч застыў наверсе. Мяса разам з грыбамі, селерам і цыбуляй прапусціць праз мясарубку разы два, дадаць яечкі, тлушч з вывару і прыправы. Вымясіць дакладна атрыманую масу, а калі атрымаецца яна занадта сухая, дадаць крыху вывару. Пульхную і гладкую масу палажыць у прадаўгаватыя формачкі, змазаныя тлушчам і пасыпаныя цёртай булкай (можна яшчэ палажыць на дно палосачкі сала). Мяса павінна даходзіць да 3/4 вышыні формачак. У гарачай духоўцы пячы гадзіну. З форм вымаць, як пашцет астыне.

**Гаспадыня**

Снілася мне так. Быццам каля царквы сядзела шмат людзей. Сядзела і я з імі, а на руках трымала голенькае прыемнае дзіцятка, дзяўчынку, з голенькімі ножкамі. І раптам бачу: каля царквы шырокае квяцістае поле. Аж блакітнае ад кветак, ні то васількі, ні то іншыя нейкія, але высокія і блакітныя. Высылаю кагось па тыя кветкі і мне той хтось прыносіць дзве блакітныя і адну белую кветку і ставіць іх перада мной. Што гэта можа быць?

Ніна

Дарагі Астроне! Мне снілася, што прыехаў салдат на белым кані і мы маем выдаваць дачку за яго замуж.

А ў другім сне — быццам у нашым доме была печ, прыйшлі людзі і разабралі яе. І мы засталіся без печы.

## ВЕР-НЕ ВЕР

А пасля сніцца, быццам пайшла я ў поле рваць лён, але на полі высветлілася, што лён яшчэ зялёны (крыху жаўтаваты). Я ўсё ж пачала яго рваць, а з боку сусед касіў траву. Далей быў доўгі загон вырванага і звязанага ў снапкі ільну. Да яго ішоў мой зяць, бо гэта быў загон яго сястры.

Лідзія С. з Г.

**Ніна!** Сон ваш добры, хаця не пазбегнеце вы нейкага смутку і ўтраты незалежнасці (вы бачылі царкву і каля яе сядзела шмат людзей). Аб добрым усё ж павароце вашых спраў сведчыць тое маленькае, мілае дзіцятка, якое вы трымалі, а асабліва тое шырокае поле, аж блакітнае ад кветак. Будзьце поўныя надзеі.

**Лідзія С. з Г.!** Два вашы першыя сны не прадвяшчаюць нічога добрага. Першы ваш сон можа прадвяшчаць нейкую непрыемнасць у сувязі са смерцю некага блізкага. Другі ж сон гаворыць за тое, што нешта разваліцца ў вашай гаспадарцы. Але трэці ваш сон добры. Можа ўсё наладзіцца ў вашым жыцці і гаспадарцы... Зелень жа была, лён, трава...

**Астрон**

## Сардэчныя тайны

Дарагое Сэрцайка, я з вёскі, а жыву і працую ў горадзе... На гэтым жа прадпрыемстве працуе мужчына, у якога два гады таму назад памерла жонка ў час родаў, а дзіця засталося жывое. Міхалу — так завецца гэты мужчына — памагае выхоўваць дзіця яго маці. І вось ён ад нейкага часу пачаў мной цікавіцца. Ён мне таксама спадабаўся. Зрэшты, яго ўсе на прадпрыемстве любяць і паважаюць. Ужо прайшло паўгода, і Міхал запрапанаваў жаніцца. Паехалі мы да маіх бацькоў, і пасля пачалася гаворка на ўсю вёску, што такая дзяўчына, а за ўдаўца замуж ідзе. Маці, хаця Міхал ёй адразу спадабаўся, пачала таксама мяне адмаўляць. Гаворыць, што і кавалера яшчэ б знайшла. А то ж і дзіця ў яго ёсць. А мне Міхал падабаецца. Ён яшчэ малады, 26 гадоў яму. І падабаецца мне яго дачушка, вельмі мілая дзяўчынка, здаецца, я б была, як родная маці для яе. Баюся, што людзі, як дзіця падрасце, скажуць яму, што я не родная маці. Што рабіць, парай!

Эля з Бельшчыны

Эля! Не зважай на людскія гаворкі. Людзі і на чужым няшчасці языкі чэшуць. Міхал — чалавек малады, і яму трэба ажаніцца. А ты, калі вырашыш за яго выйсці, мусіш быць маці для яго дачушкі, каб не зазнала яна крыўды яшчэ другі раз. Але таіць, што ты не родная маці — не трэба. Толькі якраз аб гэтым яна павінна даведацца ад вас, і трэба сцерагчыся, каб не папярэдзілі вас у гэтым „добразычлівыя" суседзі ці знаёмыя.

**Сэрцайка**

*У НАШЫМ АБ'ЕКТЫВЕ*



*Тарпаны ў Белавежскай пушчы.* *Фота С. Рыбі.*




Ад'ютант, які, здавалася, моцна спаў, імгненна ўскочыў і, паправіўшы гімнасцёрку, выбег аддаваць загад веставым.

— Юра! Мірзаяна таксама да мяне, — прагрымеў наўздагон генерал.

...Арам прысеў на табурэтку ў кутку бліндажа. Музыкін паведаміў, што дывізію падтрымае брыгада гвардзейскіх мінамётаў рэзерву Галоўнага камандавання. Але разлічваць на тое, што будуць знішчаны ўсе агнявыя пункты праціўніка, не даводзілася. Патрэбна самім знайсці шлях найбольш бяскроўнага ўзяцця горада.

— Часу ў нас застаецца вельмі мала, таварышы, — сказаў Музыкін. — Прашу выказвацца канкрэтна, па сутнасці.

— Дазвольце, таварыш генерал-маёр? — устаў Арам. Генерал кіўнуў. — Прашу дазволіць да пачатку агульнага штурму паспрабаваць атакаваць Мендзыжэч з захаду. — Арам падышоў да карты. — Вось тут і тут. Мы пройдзем. Штурмавая група прабярэцца ў горад.

— Ну што ж, калі пратрымаецеся гадзіны тры, прапанова твая будзе мець сэнс, — павольна сказаў Музыкін. — Але хачу, каб ты зразумеў як мае быць, на што ідзеш і на што вядзеш сваіх людзей. Зразумеў ты гэта?

— Колькі трэба будзе, столькі пратрымаемся, таварыш генерал, — сказаў Арам.

...З бліндажа камдыва Мірзаян выйшаў толькі гадзіны праз паўтары. Пачынала ўжо світаць.

* ✲ *

Два рослыя эсэсаўцы, злёгку хістаючыся, ішлі па вуліцы, абыякава адказваючы на прывітанні сустрэчных салдат і афіцэраў. На пляцоўцы ля касцёла іх спыніў патруль і запатрабаваў дакументы. Запылены, нявголены салдат і маладзенькі лейтэнант са смяротна стомленым тварам, чакаючы глядзелі на эсэсаўцаў.

Эсэсавец з чорнымі вусікамі абыякава махнуў рукой:

— Вы нам зробіце ласку, гер лейтэнант, калі праводзіце нас у камендатуру, — сказаў ён. — У вас тут можна заблудзіцца. Мы толькі што з вашага штаба. Магу парадаваць, — ён нахіліўся да лейтэнанта, — да вечара мы вас зменім у горадзе.

— Ён шматзначна паказаў вачыма на эмблему на рукаве свайго таварыша. — Героі „СС" прыйшлі вам на змену. Вы на той свет пакуль не адправіцеся. Ха-ха! Вы адправіцеся ў рэйх, да мамы, ха! Да дзяўчат. У вас ёсць дзяўчына, лейтэнант?

Лейтэнант загадаў пачакаць і моўчкі пайшоў побач з эсэсаўцамі да камендатуры.

Праходзячы міма нейкай падваротні, адзін з эсэсаўцаў нечакана павярнуўся і схаваўся ў ёй. Лейтэнант спыніўся і падазрона паглядзеў на другога. Той ухмыляўся:

— Я таксама хачу... э-э... Курт, эй, Курт, пачакай, я таксама! — Ён схапіў лейтэнанта і пацягнуў яго ў падваротню.

— Што такое? Што вы робіце?! — паспеў толькі крыкнуць лейтэнант.

Цяжкі ўдар збіў яго з ног. У руках эсэсаўцаў цьмяна блiснулі пісталеты.

— Калі пікнеш, тут жа выпусціш дух, — па складах, выразна сказаў эсэсавец з вусікамі.

І лейтэнант зразумеў, што эсэсаўцы не п'яныя і не жартуюць. Яго кінула ў пот.

— Не дрыжы, лейтэнант, — сказаў эсэсавец, — ты будзеш жыць, калі дакладна адкажаш на нашы пытанні. Ну?..

Звесткі, якія ўдалося атрымаць ад нямецкага лейтэнанта, былі вельмі важныя. Мірзаян, абшукаўшы лейтэнанта, знайшоў у яго план горада. Арам прымусіў лейтэнанта паказаць размяшчэнне дотаў у заходняй частцы горада.

Атрымлівалася, што на адным участку ў фашыстаў лінія абароны заставалася яўна адкрытай. Толькі адзін дот ахоўваў подступы да горада з боку балота. Відаць, немцы лічылі малаверагодным, што праціўнік можа з'явіцца адсюль. Заставалася назіраннем праверыць паказанні „языка" і знайсці спосаб „перасунуць" людзей на гэты ўчастак.

Карта дапамагла разведчыкам дакладна вызначыць напрамак адыходу з горада. Яны прабіраліся ўжо садамі на самай ускраіне, калі Мірзаян убачыў хлапчука, які паволі ішоў ім насустрач. Так разведчыкі сустрэліся з Янакам.

**(Працяг будзе)**

Імпартгумар



# ЧАГО ЯНЫ БАЯЛІСЯ?



**(Размова, падслуханая ў 2177 годзе)**

Яны сядзелі ўтрох. Да пачатку работы заставалася некалькі мінут і яны вялі няспешную размову аб усім на свеце.

— А ведаеце, — сказаў першы, — я на днях прачытаў старадаўнюю кніжку, напісаную ў другой палавіне дваццатага стагоддзя, дык уяўляеце, у ёй поўна аб патрозе навакольнага асяроддзя...

— Так, так, — спыніў яго другі, — я таксама аб гэтым чуў. Дзіўны быў народ: усе страшылі адзін другога забрудненнем вады, паветра. Чаму? Навошта?

— Цёмная рэч гэта гісторыя, — уздыхнуў трэці. — Ну, сапраўды, ці ж можна было баяцца такіх рэчаў, як сажа і дым у паветры? Як жа дзіўна трэба было разважаць, каб пужацца прадуктаў згарання! А смог ад аўтамабільных выхлапаў? Уяўляеце, яны прабавалі нават змагацца з імі! Зма-га-цца! Такая недарэчнасць!

Першы недаверліва паківаў галавой і дадаў:

— Гэта праўда. У кніжцы таксама пра гэта было. Ды найбольш мяне ўразіла іх боязь нармальнай вады. Яны жахаліся, аказваецца, калі ў рэкі і мора траплялі такія рэчы, як кіслоты і шчолачы. Уяўляеце?

— Што вы хочаце, — пацікнуў плячыма другі, — адно слова — дваццатае стагоддзе! Чаго можна чакаць ад людзей, якія трасліся ад думкі, што ў іх прадукты харчавання могуць трапіць радыёактыўныя адходы? Або, скажам, ртуць? Гэта ж абсалютна алагічна! Чаму ртуці яны баяліся, а кіслароду, напрыклад, не? Гэта ж страшэнны яд!

— Баюся, мы гэтага ніколі не даведаемся, — сказаў першы. — Дык ад гэтых людзей і слядоў не засталося. Вядома, па крупінках сякія-такія весткі аб іх мы збіраем, накшталт гэтай уцалелай кніжкі, але сапраўды, наўрад ці мы калі-небудзь даведаемся, як яны жылі... — ён паглядзеў на гадзіннік. — Пара рухацца. Трэба пайсці на другую базу праверыць інструменты.

Усе тры робаты ўсталі і накіраваліся да выйсця з бетоннага бункера. Перш чым выйсці на пазбаўленую жыцця паверхню зямлі, яны прывычнымі рухамі змазалі свае металічныя целы машынным маслам, каб засцерагчы іх ад каразіі. Яны рабілі гэта кожны раз, таму што помнілі: здароўе перш за ўсё!

**Андраш Кюрці**
(Венгрыя)



— Дзякую!



**...Калі трэба, мог быць і добрым чалавекам.**






— Дзед Мароз!
— Ды ты што, роднага брата не пазнаў?..

## ЗНАЙШЛАСЯ

*Жонка мужа дапякла.*
*Не сцярпеў ён:*
*— Будзьме!*
*Адчапіся ўжо, смала,*
*Дай хоць раз дыхнуць мне!*

*— Дыхай, я не маю зла, —*
*Кажа маладзіца, —*
*Я ж, мой любы,*
*Не смала,*
*Я ж — твая жывіца...*

**Мікола Чарняўскі**

## ХТО СТАРЭЙШЫ

— Хто з вас старэйшы — ты ці твой брат? — спыталі ў маленькага Міколкі.

— У мінулым годзе мама казала, што брат на год старэйшы за мяне. Так што сёлета я з ім зраўняюся, — адказаў Міколка.

## СЫН

Зайшоў да нас у аддзел сын нашага начальніка Тараканава.

— Які ў цябе татулька добры, — сказаў яму Піскуноў.

— І спагадлівы, — усміхнуўся Костачкін.

— І разумны, — дадаў Васіленка.

Хлопчык заплакаў.

— Чаго ж ты плачаш?

— А тата мяне навучыў, што ўсе гавораць не тое, што думаюць, а наадварот.

— Дурань твой тата, — сказаў Васіленка.

**Леў Карсунскі**

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Аднойчы Бу Адам прыйшоў у госці. Гаспадар якраз садзіўся абедаць.

— Калі ласка, — сказаў ён, запрашаючы госця да стала. — Хай любіць вас ваша цешча!

Пачуўшы гэтыя словы, Бу Адам запярэчыў:

— Не, цешча не любіць мяне. Калі б яна любіла, дык не падсунула б мне сваю дачку.

✻

Камандзір гаворыць перад строем:

— Мне патрэбны дзесяць добраахвотнікаў для выканання небяспечнага задання.

Тут жа адзін салдат выходзіць з першага раду і адыходзіць у бок.

— Што гэта значыць, Дзюпон? — пытае камандзір.

— Я хачу зрабіць месца для добраахвотнікаў.

✻

Позна вечарам на цёмнай лонданскай вуліцы.

— Калі вы дасце мне дзесяць фунтаў, то выратуеце жыццё аднаго паважанага грамадзяніна!

— Выбачайце, але вы не выклікаеце ўражання паважанага грамадзяніна.

— Я ведаю, ды я гавару аб вас.

## У РЭСТАРАНЕ

— Кельнер, у курыцы, якую вы мне прынеслі, адна скура ды косці!

— Што зробіш, цяпер мода такая — усе хочуць пахудзець.

## ІСТОТНАЕ

— Божа мой, які цудоўны ў вас хлопчык! Ён, напэўна, падобны на бацьку?

— О так, хлопчык — выліты бацька! Толькі прозвішча ў яго іншае.

## НЯЎДАЧНІК

— Што з вашымі вушамі? — спытаў у пацыента доктар Знахарук.

— Гэта я так рыхтаваўся да Новага года, — адказаў той.

— Цікава, як гэта?

— Прасаваў нагавіцы, а тут нечакана як зазвоніць тэлефон. Я ў спешцы замест трубкі да левага вуха прас паднёс.

— А чаму ж у вас і правае вуха прыпалена?

— Правае? А гэта ўжо здарылася тады, калі я званіў, выклікаючы „хуткую дапамогу".




## СТАРЫ І ДРЭВА

Стары саджаў арэхавае дрэва. Падарожнік спытаў:

— Колькі табе гадоў?

— Восемдзесят.

— А праз колькі гадоў можна будзе есці арэхі з дрэва, якое ты садзіш?

— Праз сорак гадоў.

— То няўжо ж ты спадзяешся пражыць яшчэ сорак гадоў і паласавацца тымі арэхамі? — здзівіўся падарожнік.

— Не. Я ўжо паспытаў садавіны з дрэў, якія пасадзілі бацькі, а арэхамі майго дрэва хай ласуюцца нашы дзеці, — адказаў стары.



*— Прафесар Кузачка не можа прыйсці, але перазвоніць мне анекдоты, якія хацеў нам расказаць.*

## ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*Па просьбе Ірэны Троц з Рудут і Юркі Рыбака з Галадоў змяшчаем песню*

## CYGAŃSKA JESIEŃ

słowa: Janusz Kondratowicz
muzyka: Waldemar Kazanecki
śpiewa Anna Jantar

Weź gitary śpiew,
weź jałowca dym,
weź tej nocy czerń,
niech konie ostrzej krzeszą skry.

Cygańska jesień
ruszy z tobą w świat,
cygańska jesień
rozkołysze wóz,
wygasłe ognie
znów rozniecł wiatr
i koła wzbiją kurz.

Znajoma śpiewka
scichnie w dali gdzieś,
cygańska wróżba
spełni się lub nie
i tylko drogi,
tylko drogi kres
nie zbliży nigdy się.

Weź okruchy snu,
weź naręcze gwiazd,
weź przedświtu chłód,
pożegnaj miejsca, które znasz.

Cygańska jesień
ruszy z tobą w świat...
Wprost w przydrożny piach
spadł księżyca nóż,
to niedobry znak —
nie wrócisz chyba tutaj już.

Cygańska jesień
ruszy z tobą w świat...

## МУЖ У ВОДПУСКУ

Жонка пасылае мужу, які паехаў у водпуск, тэлеграму: „Не забудзь, што ты жанаты". Праз некалькі дзён яна атрымлівае адказ: „Тэлеграма ўручана са спазненнем".



## ЧАЦВЕРАНОГІЯ АЦЯПЛЯЛЬНІКІ

У якасці сродкаў кватэрнага ацяплення людзі карыстаюцца ўсемагчымымі печамі, паравымі і вадзянымі радыятарамі, электрычнымі і газавымі плітамі. А вось адна старая жанчына ў адным французскім гарадку выкарыстоўвае для гэтай мэты... сабак.

Праўда, гэта не падабаецца яе суседзям, бо чацвераногія праяўляюць сябе не толькі ў якасці крыніцы цеплыні, а і ў якасці „генератараў" шуму. З такой нагоды ў адрас мэра гарадка паступілі адпаведныя скаргі. Мэр не змог знайсці хоць якое выйсце з гэтага становішча. З аднаго боку, яму было шкада беднай жанчыны, якая хоць крыху саграваецца каля сабак у суровыя маразы, з другога — суседзяў, якія церпяць непрыемнасці ад гвалту чацвераногіх сяброў чалавека. Але калі скаргі дайшлі да прэфекта дэпартамента, каб аказаць адзінокай старой неабходную матэрыяльную дапамогу, ён распарадзіўся ўсё ж пакінуць ёй двух сабак для абагрэву, а каб улагодзіць яе суседзяў, загадаў трох сабак ліквідаваць.

## ТАТА НА ТРАНЗІСТАРАХ

Дэніс Вестан з Лідса ў Англіі сканструяваў робата з тэлеперадатчыкам, які часткова ўзяў на сябе выкананне бацькоўскіх абавязкаў: ён возіць сына вынаходніка на прагулку.

Вестану ж застаецца толькі, седзячы дома, кіраваць робатам і па тэлевізары наглядаць за сынам.

Некага яшчэ назаве сын „татам", калі навучыцца гаварыць...




**Калі ваш муж за сталом у рот нічога не бярэ, то ўпаўне верагодна, што ён ужо... набраўся.**